# З Новым годам, з новым шчасцем у 2012 годзе!

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.



Выдаецца са снежня 1994 года

№52 (612) 29 снежня 2011 года. Кошт свабодны.

Полацкі раён

# Ад даільных залаў да … гармат

■ Чэслаў Якубовіч

**У жорсткіх умовах канкурэнцыі на рынку поспеху дабіваецца той вытворца, які актыўна займаецца інавацыйнай прадукцыяй па прагрэсіўных тэхналогіях.**

У такім накірунку пачаў дзейнічаць апошнім часам у Полацку адзін са старэйшых у горадзе заводаў "Тэхналіт". Яшчэ летась яго спецыялісты асвоілі выпуск сучасных наканечнікаў Бура для вядзення будаўніцтва на мёрзлых і балоцістых грунтах. Як аказалася, гэта быў удалы разлік, паколькі паступіла вельмі шмат заказаў з Ленінградскай вобласці і з самога Санкт-Пецярбурга, дзе нельга забіваць палі. У "паўночнай расійскай сталіцы" пачаў працаваць нават прадстаўнік завода, бо вельмі шмат заявак на іх і на чыгунны посуд. У садружнасці з немцамі і аўстрыйцамі палачане сталі выраблаць і аўтаматызаваныя даільныя залы для ферм з сістэмай дойкі робатамі. Для падраздзяленняў айчыннага АПК на заводзе выпускаецца шмат рознага абсталявання і металаканструкцый, вакуумных помп, аснасткі ферм і сенажных вежаў. Акрамя гэтага палачане сталі адными з лепшых у Беларусі вытворцаў і мастацкага ліцця. Яны адліі некалькі старажытных гармат, якія могуць нават страляць па святах. У сувязі са святкаваннем у будучым годзе 200-годдзя руска-французскай вайны прадпрыемства атрымала шмат заказаў з Расіі і нават на цэлыя вялікія помнікі воінам 1812 года. Прычым адметна, што палачане цяпер могуць не толькі помнік з гарматамі зрабіць, але і цалкам плошчу для іх абнесці прыгожымі каванымі агароджамі і моднымі металічнымі лаўкамі.




# Лічба нумара

**120%** - на стольскі ў Беларусі, як паведаміў дэпутатам Палаты прадстаўнікоў міністр фінансаў А. Харкавец, выраслі ў Беларусі ў адыходзячым годзе спажывецкія цэны. Такі сумны вынік – па-сутнасці сусветны антырэкорд, які прадэманстравала сёлета апошняя на кантыненце эканоміка савецкага тыпу разам з рэкорднай дэвальвацыяй нацыянальнай валюты, зніжэннем жыццёвага ўзроўню. Беларусаў пасля леташніх выбараў і драматычных падзей на плошчы хутка пазбавілі ад шырока разрэкламаваных сярэдніх зарплат 500$.

Такім быў у гэтым годзе айчынны крызіс, абумоўлены нашымі ўнутранымі праблемамі і адпаведнай дырэктыўна-каманднай эканамічнай палітыкай. Толькі некалькі гадоў суайчыннікі пажылі адносна нядрэнна, калі раслі даходы, абнаўлялася бытавая тэхніка, а ў многіх людзей і іншамаркі. Праўда, да глыбокага крызісу і да галодных бунтаў справа так і не дайшла ў нас, паколькі на дапамогу суседцы зноў прыйшла Расія. І вось ужо на афіцыйным узроўні заяўляюць, што пасля перамоў па энерганосьбітам наша краіна атрымае ў 2012 годзе эканамічны эфект болей 4 млрд. долараў. Адпаведна ставіцца задача дабіцца ў будучым годзе станоўчага сальда гандлёвага балансу ў памеры 1,5 млрд. $.

Дагэтуль, нагадаем, мы ніяк не навучыліся гандляваць з астатнім светам (а можа проста няма дастойных айчынных тавараў?). Па выніках гэтага года, па дадзеных Мінфіна РБ, адмоўнае сальда знешняга беларускага гандлю таварамі і паслугамі мінус 3,2 млрд. USD. На канец 2011 года знешні дзяржаўны доўг Рэспублікі Беларусь дасягнуў 12,2 млрд. долараў. Упраўленцы нашага ўрада і не ўтойваюць, што і надалей захаваецца тэндэнцыя росту нашых даўгоў, бо акрамя асвапення папярэдніх узятых крэдытаў і выплат па іх нам трэба будзе пачынаць узвядзенне дорага каштуючай атамнай станцыі за кошт новых крэдытаў РФ. Па словах главы мінфіна, наш знешні доўг у канцы наступнага года дасягне 14 млрд. долараў.

Беларускае кіраўніцтва, падобна на тое, зрабіла сёлета свой галоўны знешнепалітычны выбар у бок Масквы, у адрозненне ад суседняй Украіны з яе асноўным курсам на інтэграцыю з ЕС, і найперш вырашыла пытанні ўмацавання і далейшага захавання сваёй улады. Пра лібералізацыю, эканамічныя рэформы, не кажучы ўжо пра дэмакратызацыю грамадства, можна і забыць. Нездарма ж, у лік прыярытэтных задач астатніх гадоў гэтай пяцігодцы ставіцца праграма стварэння і рэканструкцыі 1300 жывёлагадоўчых ферм. Быццам сучасныя даільныя залы і малакапровады павысяць канкурэнтназдольнасць нашай прамысловасці, якой не хапае інвестыцый і доступу да лепшых сусветных тэхналогій.

Пра што можна казаць, арыентуючыся на Маскву, калі не ведаць, што ўвесь расійскі ВУП на душу насельніцтва складае толькі палову партугальскага. А Партугалія – гэта заробкі людзей ў межах тысячы еўра ў месяц, да якіх наблізіліся палякі і чэхі, а эстонцы ўжо сталі багацейшымі за іх. Але для беларусаў узнік дадатковы фактар магчымай нестабільнасці і цяжкасцей: Расію пасля 18 гадоў няпростых перамоў прынялі ўсё ж у Сусветную гандлёвую арганізацыю.

Як бы ні складваліся далей пастаўкі беларускіх тавараў на галоўны расійскі рынак, але відавочна, што большасці з нас у наступаючым 2012 годзе прыйдзецца зацягнуць паясы. Ва ўрадзе і не ўтойваюць, што будзе вельмі складана ўкласціся ў гадавую інфляцыю 22 %. Каб спыніць далейшы рост цэн, Беларусі прыйдзецца істотна скараціць многія дзяржаўныя расходы. З гэтай мэтай ліквідуецца цэлы шэраг ранейшых мэтавых бюджэтных фондаў, скарочана падтрымка сельскай гаспадаркі ( да прыкладу ў 2010 годзе айчынны АПК атрымаў валавай прадукцыі на 5 млрд. $, але датацыі яму склалі тады 3 млрд. долараў).

Адзінае, што для нас з боку Крамля прадастаўлена пэўная палёгка на 3-4 гады за згоду ўвайсці ў Еўразійскі эканамічны саюз разам з Казахстанам. Але гэта доўга працягвацца не будзе, асабліва калі буйныя расійскія кампаніі ў бліжэйшы час не змогуць рэалізаваць свае амбіцыйныя планы на тэрыторыі Беларусі. Пакуль жа пасля 2-гадовага перапынку яны пачнуць у нас весці перапрацоўку расійскай нафты і самастойна распараджацца вырабленым на беларускіх НПЗ палівам.

Пастаўскі раён

# То ўзлёт, то – падзенне

■ Кастусь Александровіч

**У гэты перыяд года светлавы дзень стаў зусім кароткім, а пад прыкрыццём цемры заўсёды лягчэй рабіць дрэнныя ўчынкі.**

Таму і ў Пастаўскім раёне напярэдадні калядных свят прыйшлося на працягу тыдня распачаць яшчэ 5 крымінальных спраў па фактах розных крадзяжоў маёмасці грамадзян. Характэрна, што на фінішы года ў рэгіёне сутыкнуліся з новай тэндэнцыяй: сталі мярзотнікі рэгулярна "чысціць" гаражы. Адзін з мярзотнікаў навогул "вызначыўся". Злодзей забраўся ў салон легкавога аўтамабіля, забраў адтуль 20 тысяч рублёў, а потым з незразумелых меркаванняў узяў і спаліў машыну. Ужо не ратуюць людзей і надзейныя замкі і запоры на дзвярах іх гаражоў. Вось і ў адну з начэй у адзін з боксаў гаражнага кааператыва ў райцэнтры забраўся злодзей. Аўто ён, праўда, не чапаў, але забраў з сабой нямецкую бензапілу, вялікі набор ключоў і нават шрубакрут. Праз тыдзень у райаддзел міліцыі звярнуўся яшчэ адзін пастаўчанін, у якога з гаража ля ўласнага дома таксама ўкралі бензапілу "Штыль" і іншых каштоўных рэчаў на агульную суму 6,5 млн. рублёў. Затым падобныя "спецыялісты" перабраліся з горада ў сельскую мясцовасць. У цэнтры знакамітай гаспадаркі, аграгарадку Навасёлкі, яны абакралі яшчэ два прыватныя гаражы. Праўда, там злачынцы пажывіліся на меншую суму, але настрой вяскоўцам сапсавалі. Здараецца, што злодзеі крадуць дзёрзка і пасярод белага дня. Так дзейнічаў 22-гадовы і ўжо судзімы гараджанін, які забраў з прылаўка 2 бутэлькі віна і ўцёк. Яго неўзабаве знайшлі і зноў ён адправіцца хутка за краты.

Браслаўскі раён

# Наваселле адкладваецца

■ Станіслаў Раманчук

**У райцэнтры Браслаў своеасаблівай візітоўкай горада з'яўляецца аўтастанцыя на ўездзе, размешчаная на беразе вялікага возера Дрывяты.**

Аднак яе састарэлы выгляд і дапатопны дызайн яўна не ўпрыгожвалі азёрны край і само курортнае месца. Да радасці гараджан некалькі гадоў назад было прынята рашэнне пабудаваць тут новы сучасны аўтавакзал. Аднак у нас часта бывае, што ад планаў доўга ўсё цягнецца да іх ажыццяўлення . На бяду браслаўчан з-за фінансавых праблем і гэты патрэбны аб'ект стаў чарговым доўгабудам. Неабходныя для будаўніцтва сродкі паступаюць нерытмічна, сёлета на заключны квартал года быццам ужо выдаткавалі 1 мільярд рублёў з абласнога бюджэта. У апошні момант з гэтай сумы засталося менш 300 мільёнаў, астатнія грошы пайшлі ў абласны рэзерв на неадкладныя патрэбы. Пашчасціла толькі жыхарам маленькага райцэнтра Лёзна, на усходняй граніцы Прыдзвіння з Расіяй. Там меркавалі праводзіць абласныя "Дажынкі" і новую аўтастанцыю пабудавалі. А вось у азёрным краі ў гэтым годзе будаўнікі ПМК-42 змаглі пакласці плітку, бардзюры, зрабіць навесы. Не хапіла сродкаў, каб зрабіць патрэбнае асфальтавае пакрыццё ля новага аўтавакзала. Ягоны слой аказаўся малы і тэрыторыя пасля дажджоў пакрываецца вялізнымі лужынамі. Адзінае спадзяванне, што летам будучага года гэты аб'ект усё ж будзе здадзены ў Браславе ў эксплуатацыю, бо далей адкладваць на трэці год работ наваселле сорамна і непрыгожа.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 29.12.11 | | | | Пятніца 30.12.11 | | | | Субота 31.12.11 | | | | Нядзеля 01.01.12 | | | | Пнд. 02.01.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | 0 | +3 | +3 | +3 | +2 | +1 | +2 | +1 | 0 | 0 | +1 | 0 | -2 | -2 | -1 | -2 | -3 | -2 | 0 |
| Ціск | 749 | 744 | 742 | 741 | 740 | 739 | 738 | 739 | 738 | 738 | 739 | 740 | 743 | 746 | 748 | 748 | 747 | 744 | 742 |
| Вільготнасць | 88 | 94 | 90 | 90 | 90 | 86 | 80 | 87 | 92 | 98 | 93 | 98 | 90 | 86 | 71 | 85 | 80 | 84 | 87 |
| Вецер м/сек | Ю-З 5 | Ю-З 7 | Ю-З 7 | Ю-З 6 | Ю-З 6 | Ю-З 6 | Ю-З 6 | Ю-З 5 | Ю 5 | Ю 4 | Ю-З 3 | З 2 | С-З 4 | С-З 3 | С-З 3 | Ю-З 2 | Ю 4 | Ю 6 | Ю 6 |
| | | 09:35 | 16:47 | | | 09:35 | 16:48 | | | 09:34 | 16:49 | | | 09:34 | 16:50 | | 09:34 | 16:51 | |

## Дзень за днём

**Адначаць сёлета навагоднія свята беларусы будуць толькі адзін дзень, пераносу працоўных дзён да надыходу года Дракона не планавалася. З новага года беларускі ўрад вырашыў павысіць мінімальную зарплату да 1 млн. рублёў, а перад гэтым у чарговы раз стаўка рэфінансавання Нацбанка зноў павысілася да 45 % гадавых. Замежны доўг Беларусі дасягнуў 32,5 млн. USD, за 10 месяцаў сёлета ён павялічыўся на 14,5 %. Цэны на аўтамабілі з новага года ў дылераў вырастуць на 15 %, бо адмянілі існаваўшыя льготы на ПДВ пры завозе машын. На калядныя і навагоднія святы Беларуская чыгунка арганізавала дадатковыя цягнікі.**

# Важнейшыя навіны свету

***Панама.*** Францыя передала былога лідарадыктатара краіны М. Нар'егу дажываць свой век у турме (тэрмін 23 гады) на радзіме за забойствы сваіх палітычных супернікаў.

**Канада.** Улады краіны сталі першымі ў свеце, хто выйшаў з Кіёцкага пратакола аб зніжэнні выкідаў парніковых газаў, ёй штогод трэба было плаціць 14 млрд. $ штрафаў.

**Малдова.** У 1-м туры выбараў у непрызнаным светам Прыднястроўі не парамог кандыдат ад Крамля, дзеючы даўнішні прэзідэнт Ігар Смірноў пацярпеў крыўднае паражэнне.

**Бельгія.** Краіна нарэшце ўздыхнула з аблягчэннем, калі праз 1,5 года бельгійскі кароль Альберт II прыняў прысягу новага ўрада на чале з лідарам сацыялістаў Валоніі Э. дзі Рупо

**Англія.** Апазіцыя заявіла, што гістарычнае вета прэм'ера Дэвіда Кэмерона ў Бруселі паклала новую эру ізаляцыі Вялікабрытаніі ад астатняй Еўропы, ускладніць яе жыццё.

**Расія.** Крэмль устрывожыла нечакана вялікая хваля пратэстаў па ўсёй краіне наконт вынікаў парламенцкіх выбараў, многія расіяне стаміліся ад Пуціна, жадаюць перамен.

**Украіна.** Як заявіў прэм'ер М. Азараў, калі краіне не ўдасца дамовіцца з Расіяй аб больш выгадных умовах паставак газу, то вымушаны будзем плаціць і па 400 $ за тыс. кубметраў.

**Лівія.** На цэнтральнай плошчы на акцыі пратэсту ў Бенгазі 30 тысяч чалавек запатрабавалі ад новай улады, каб з часовага ўрада сышлі ўсе, хто быў неяк звязаны з Муамарам Кадафі.

**Бірма.** Ваенная хунта афіцыйна зарэгістравала апазіцыйную партыю на чале з Аун Сан Су Чжы, яна выйграла выбары ў 1990 годзе, але потым 15 гадоў была пад дамашнім арыштам

**Латвія.** Паліцыя паабяцала жорсткія кары невядомым, якія арганізавалі сярод латышоў паніку і заклікалі іх праз SMS здымаць масава грошы з рахункаў у банкаматах банкаў.

**Італія.** З мэтай выхаду з фінансавага крызісу краіна вырашыла сэканоміць 30 млрд. еўра, павысіць падаткі, увесці новыя і правесці рэформу павелічэння пенсійнага ўзросту.

**Туніс.** Новым, 4-м прэзідэнтам краіны пасля рэвалюцыі зімой стаў вядомы праваабаронца, апазіцыянер і медык па прафесіі Мансэф Марзуні, выпускнік Страсбурскага ўніверсітэта.

**Польшча.** У аэрапорце Варшавы быў затрыманы, але адразу адпушчаны экскандыдат у прэзідэнты А. Міхалевіч, ён праходзіць па спісах Інтэрполу, атрымаў прытулак у Чэхіі.

**Казахстан.** Наяўнасць у краіне тэрору і нават рэлігійнага экстрэмізму прызнаў саветнік прэзідэнта Ермухамет Ертысбаеў, якога ў народзе ведаюць як "салавей Назарбаева".

**Германія.** Заапарк у Кёльне неспадзявана папоўніўся 100 змеямі, 70 чарапахамі і 20 рэдкімі жабамі, якіх паліцыя канфіскавала ў затрыманых трох кітайцаў-кантрабандыстаў.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** На будучы год старшыня праўлення Нацбанка Беларусі Надзея Ермакова спрагназавала сярэднегадавы курс $ на ўзроўні 9150 рублёў (сёлета склаўся 8600 рублёў).

**Шклоў.** На сваёй радзіме падчас наведвання папяровай фабрыкі "Спартак" А. Лукашэнка загадаў стварыць у краіне эфектыўную сістэму па зборы і апрацоўцы другаснай сыравіны.

**Салігорск.** Беларускае кіраўніцтва пацвердзіла, што пакуль не спяшаецца прыватызаваць "Беларуськалій" і плануе павялічыць аб'ём выпуску калійных угнаенняў на 15 млн. тон.

**Мінск.** Генпракуратура РБ завяла крымінальную справу ў дачыненні намесніка міністра МУС палкоўніка Я. Полудня, яго арыштоўвала ў прыгарадным доме група аўтаматчыкаў.

**Гомель.** Дарога адсюль на Мінск стане трасай 1-ай катэгорыі і першай платнай у Беларусі такога класу, яе рэканструкцыя ідзе зараз з прыцягненнем займаў Сусветнага банку.

**Слонім.** Мясцовыя работнікі "Белтрансгазу" парадаваліся, што іх новы гаспадар, расійскі канцэрн "Газпрам" падняў іх заробкі ў 3 разы па ўказанню расійскага прэм'ера У. Пуціна.

**Мінск.** Былога камандуючага ВПС і войскаў СПА генерал-маёра Ігара Азаронка ваенная калегія Вярхоўнага суда Беларусі асудзіла на 9 гадоў турмы з канфіскацыяй маёмасці.

**Гродна.** У гадзіну пік у цэнтры горада падчас руху памёр за рулём перапоўненага аўтобуса вадзіцель з-за сардэчнага прыступа, на шчасце ніхто з людзей не пацярпеў.

**Мінск.** На пасяджэнні калегіі ведамства старшыня Дзяржкантролю РБ А. Якабсон прызнаў рост цэн сёлета ў 3 разы, але абвінавáціў у гэтым, у асноўным, прыватны бізнес.

**Баранавічы.** Пракуратура пачала праверку трагічнай гібелі двух рабочых райагрaсервіса ва ўзросце 58 і 39 гадоў, якіх засыпала мінеральнымі ўгнаеннямі пра разгрузцы вагонаў.

**Мінск.** У рэестр пасад Мінпрацы і сацабароны РБ увяла новую прафесію "фотарэдактар", іх пачнуць рыхтаваць у Інстытуце журналістыкі БДУ з новага навучальнага года.

**Навагрудак.** Дзякуючы пільнасці жыхаркі райцэнтра міліцыя затрымала двух злодзеяў, зводных братоў ва ўзросце 37 і 25 гадоў, яны абрабавалі 60 кватэр, найболей на Брэстчыне

**Нясвіж.** Райцэнтр стаў новай культурнай сталіцай Беларусі ў 2012 годзе, эстафету перадачы ганаровага звання яму перадалі на ўрачыстай цырымоніі ў Палацы Гомеля.

**Мінск.** Пагроза масавай забастоўкі адтэрмінавала пераезд прадпрымальнікаў Чэрвенскага рынка ў Лошыцу да красавіка, на гэтым месцы іранскі інвестар узвядзе дзелавы цэнтр.

**Гродна.** Так і не з'явіўся ў горадзе да 120-годдзя з дня нараджэння запланаваны помнік Максіму Багдановічу, яго вырашылі налета замяніць толькі маленькім бюстам.

# Малазабяспечаныя катэгорыі жыхароў Віцебскай вобласці да Новага года атрымаюць матэрыяльную дапамогу



■ **Вольга Багачова - БЕЛТА**

**Малазабяспечаныя катэгорыі жыхароў Віцебскай вобласці да Новага года атрымаюць матэрыяльную дапамогу, паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў камітэце па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Віцебскага аблвыканкама.**

Матэрыяльная падтрымка ў памеры не меней пяці базавых велічынь (адна базавая велічыня цяпер роўная Br 35 тыс.) будзе аказана малазабяспечаным шматдзетным, няпоўным сем'ям і сем'ям непрацуючых інвалідаў, якія выхоўваюць непаўналетніх дзяцей, сем'ям, што выхоўваюць дзяцей-інвалідаў ва ўзросце да 18 гадоў, непрацуючым адзінокім пенсіянерам, непрацуючым адзінокім інвалідам 1, 2, 3 груп; тварам з ліку дзяцей-сірот і дзяцей, пакінутых без апекі бацькоў, ва ўзросце ад 18 да 23 гадоў.

Выплаты будуць праводзіцца са сродкаў мясцовых бюджэтаў. Іх выдача пачнецца на бягучым тыдні і працягнецца да 30 снежня ўключна.

Дзяржаўную адрасную сацыяльную дапамогу (ГАСП) на суму Br 8,9 млрд. у студзені-верасні атрымалі больш 35 тыс. жыхароў Віцебскай вобласці. У структуры атрымальнікаў ад агульнага ліку прызначэнняў 32% складаюць няпоўныя сем'і, 18% - поўныя, якія выхоўваюць аднаго ці двух дзяцей, 27% - шматдзетныя, 15% - адзінокія грамадзяне. Па 898 зваротам за гэты перыяд прынята рашэнне пра аказанне адраснай сацыяльнай дапамогі на аплату тэхнічных сродкаў сацыяльнай рэабілітацыі інвалідам трэцяй групы і дзецям да 18 гадоў, не прызнанымі інвалідамі, на суму Br 755,1 млн.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Віцебск.** У новы пералік аб'ектаў жыллёвага будаўніцтва на 2012 года ўключылі па вобласці незавершаныя сёлета шматпавярховікі агульнай плошчай 140 тысяч кв. метраў.

**Наваполацк.** У канцы года стратных прадпрыемстваў у горадзе засталося толькі 3, але ўжо 9 месяцаў не працуе завод бялкова-вітамінных канцэнтратаў, ідзе пошук інвестара.

**Глыбокае.** Мясцовы мясакамбінат стаў пераможцам нацыянальнага конкурса, атрымаў дыплом "Залаты ГУСТ" за стабільна высокую якасць, укараненне новых тэхналогій.

**Орша.** Пасля банкрутцтва фірмы "БелБудЛік" кіраўніцтва вобласці даручыла мясцоваму будтрэсту № 18 завяршыць будаўніцтва пачатага 10-павярховага дома ў Задняпроўі-3.

**Верхнядзвінск.** Сельсаветы раёна пачалі складаць спісы жыхароў прыгранічнай тэрыторыі, якія з 1 лютага змогуць наведваць Латвію без віз па спецыяльных дазволах.

**Полацк.** На дарозе каля вёскі Гомель трагічна загінуў 42-гадовы вадзіцель джыпа, калі ад фуры на поўнай хуткасці адарваўся на сустрэчнай палясе прычэп і ўрэзаўся ў яго аўто.

**Віцебск.** Абласны музей прадаставіў частку сваіх лепшых экспанатаў з фонду для арганізацыі выставы "Мінск 1812 года" ў Нацыянальным гістарычным музеі РБ у Мінску.

**Браслаў.** Акрамя прыгожай выставы "Калядныя ўзоры" мясцовы музей традыцыйнай культуры адрадзіў выступленні да святаў сапраўднай беларускай лялечнай батлейкі.

**Паставы.** Калектыў тэлеканала "Паставы-TV" стаў пераможцам рэспубліканскага творчага конкурса сярод электронных СМІ за сваю праграму "Мама – гэта цэлы Сусвет".

**Гарадок.** Да 5 гадоў турмы пагражае двум 19-гадовым навучэнцам мясцовага ліцэя, якія ўгналі аўтамабіль ВАЗ у свайго ж таварыша па вучобе і зляцелі на ім у дарожны кювет.

**Шаркоўшчына.** Карціны ўдзельнікаў леташняга рэспубліканскага пленера склалі аснову экспазіцыі ў райбібліятэцы, прысвечанай памяці майстра гравюры Яна Лапацінскага.

**Орша.** Вечарам дызельцягніком на Віцебск быў смяртэльна траўміраваны мужчына, на выгляд 55-60 гадоў, ён кінуўся пад колы, каб скончыць жыццё самагубствам.

**Талачын.** Выканкам БФФ зацвердзіў на пасадзе новага, 8-га па ліку галоўнага трэнера зборнай Беларусі па футболе ўраджэнца раёна, вядомага спецыяліста Георгія Кандрацьева

**Глыбокае.** Недабудаваны музей-сядзібу заснавальніка беларускага тэатра Ігната Буйніцкага вырашана прадаць з аўкцыёна па стартавай цане 35 тысяч рублёў.

**Віцебск.** Урачыстасці 100-годдзя беларускага футбола ў драмтэатры імя Я. Коласа атрымаліся сумнымі: ФК "Віцебск" пакінулі 15 вядучых гульцоў пасля вылету з эліты.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ Уладзімір Скрабатун

Барыс Уласаў:

# “Баклан – біч Беларусі!”

**Я даю гарантыю, што 99 адсоткаў жыхароў Глыбоччыны не маюць не тое што поўнага ўяўлення аб краі, дзе яны жывуць, але й самага пачатковага.**

**Глыбоччына не такая ўжо і малая тэрыторыя! Сюды ўлезе шмат якіх карлікавых дзяржаваў, як Сан-Марына, Ліхтэнштэйн, Манака, Андора… То колькі ўсяго цікавага знойдзецца на Глыбоччыне, а якія тут людзі жывуць!**

У свой час мы наведалі хутар Скрабатуны, які знаходзіцца на беразе возера Вялікі Супонец. Тут пражывае спадарства Серафімовічаў: бацька і сын з сям’ёй, якія кінулі тлумны Мінск і прыехалі на сталае жыхарства не ў “аграгарадок”, а ў самую што ні ёсць глыбоцкую глухмень. Аляксей Аляксандравіч Серафімовіч, азёразнаўца, суаўтар шматлікіх даследаванняў і кнігаў па азёрах Беларусі. Сын Якаў – фермер, займаецца конегадоўляй і агратурызмам. Адбою няма ад турыстаў! Самы папулярны маршрут – конная вандроўка ў Бычкі, на радзіму слыннага беларускага пісьменніка Васіля Быкава. Ды мы ўжо пра гэта пісалі і не аднойчы!

Не пісалі толькі пра Барыса Паўлавіча Уласава, іх суседа на хутары Скрабатуны. Не пісалі, бо ніяк не маглі яго заспець дома. Ён яшчэ не на пенсіі, працуе ў Мінску. А тут нам, нарэшце, невыказна пашанцавала! Заспелі!

Спадар Уласаў – загадчык лабараторыі азёразнаўства Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэту, доктар геаграфічных навук. Упадабалі ж азёразнаўцы бераг возера Вялікі Супонец!

Завіталі...

**У.С.:** Серафімовічы казалі, што ў Вас – цікавы прыватны музей побыту. Раілі наведаць.

**Б.У.:** Як географ я шмат вандрую не толькі па Беларусі, але й Расіі: па Сібіры, Далёкаму Усходу, па маладосці падарожнічаў на байдарках па рэках. То экспанаты для музея збіраліся паўсюль і самым незвычайным чынам.

Ёсць у мяне нават стол аднаго вядомага беларускага пісьменніка (шкада, падзабыў яго прозвішча), які быў рэпрэсаваны ў 1936 годзе. Бурылі дом у Мінску, а наш супрацоўнік залез на гарышча, убачыў гэты стол, тэлефануе: “Трэба? Прыязджай, забірай!”

**У.С.:** Бачым: у Вас тут вялікая калекцыя прасаў, самавараў, усялякага посуду, куфраў… Цудоўная калекцыя!

**Б.У.:** А гэта – адгадайце, што такое!

**У.С.:** З першага погляду – дыяпраектар.

**Б.У.:** Так! XIX стагоддзе!

**У.С.:** Ашалець!

**Б.У.:** Ёсць тут і ўсё да яго. Вось – набор каляровых слайдаў, якія намаляваныя на шкле. Гэта – карбідны ліхтар, запальваеш, ставіш ў скрынку, а ў адтуліну – слайд, наводзіш рэзкасць аб’ектыва і – глядзіш выяву на сцяне.

Праўда, мой музей яшчэ трэба ўпарадкоўваць і ўпарадкоўваць, але, пэўна ўжо на пенсіі, калі будзе больш часу.

Шкада, вельмі шкада, што наша Беларусь, ледзве не штодня губляе сваю гісторыю, сваю даўніну. Быў цікавы млын на рацэ Страча (недзе на Пастаўшчыне ці Мядзельшчыне), якая перасякае шашу Полацк-Вільня, вадаспад на ёй. Перажыў гэты млын, і палякаў, і немцаў, і партызанаў, і савецкую ўладу, дастаяў, дажыў да часоў незалежнай Беларусі. Прыязджаем … Няма! Камусьці муліў гэты млын. Узарвалі нядаўна! Там было такое агромністае млыннае кола. Зрэзалі варвары аўтагенам, на металалом, напэўна, здалі.

А ў гэтай жа рацэ стронга[1] водзіцца!

**У.С.:** Ой, не думаў, што так недалёка ад Глыбокага стронга водзіцца!

**Б.У.:** Ёсць на Беларусі стронга! У нас там добрыя стронгавыя рэкі!

Я на сваім вяку добрую паўсотню заказнікаў зрабіў на Беларусі. І, зразумела, у тых месцах, дзе ў нашых рэках стронга водзіцца.

**У.С.:** Як я разумею, і Вашая заслуга ёсць ў тым, што возера Белае[2] на Глыбоччыне з’яўляецца заказнікам?

**Б.У.**: Так!

**У.С.:** Распавядзіце.

**Б.У.:** Маляўнічае, прыгожае возера! Гадоў трыццаць таму ў ім была такая ўнікальная чыстая вада! Абсалютна ніякага ўплыву чалавека. Там знаходзіліся пэўныя віды флоры і фаўны, якія занесеныя ў Чырвоную кнігу. І, як здаецца, ці ў 1973 або 1974-ы годзе мы і абвесцілі азёры Доўгае і Белае заказнікамі.

Ды што тут казаць, нават на гэтым хутары ёсць пяць відаў флоры і фаўны, занесеных у Чырвоную кнігу: шэры журавель, які тут, за агародамі, на балоце, бывае часта заўважны, скапа[3], шпажнік чарапітчаты, касацік сібірскі і прымула – такая жоўтая кветка.

**У.С.:** Ваш сусед па хутары – спадар Серафімовічстарэйшы – казаў нам, што тут на возеры Супонец бачылі бакланаў[4]…

**Б.У.:** Бачыў я іх тут у мінулым (2010-ым) годзе, а ў гэтым, праўда, не. Гэта насланнё! Біч для Беларусі ў цэлым! Я думаю, што асноўная прычына – пацяпленне клімату. Мы заўважаем, што і белая чапля сюды з поўдня ўжо перасоўваецца, ну й бакланы, зразумела. У нас ужо можна назіраць цэлыя калоніі бакланаў, крайнія пункты на Беларусі – возера Асвейскае і возера Рычы (на мяжы з Латвіяй). Нядаўна мы былі на Дрысвятах – там бакланы адчуваюць сябе цудоўна. Вельмі даступная ежа, асабліва ў сажалках рыбалавецкіх гаспадарак, што спрыяе іх хуткаму росту.

Вялікая праблема! Баклан – інвазіўны[5] від, абсалютна не ўласцівы для Беларусі. Такая “паўзучая інтэрвенцыя” на Беларусь ад берагоў Чорнага мора, з Крыма. З бакланам трэба змагацца!

Да нас ужо шмат чаго перакачавала, напрыклад, дрэйсена (Dreissena polymorpha), маленькая дробная ракушка, якая водзіцца ў нашых азёрах – понта-каспійскі від, які сюды занесены птушкамі. Яго гістарычны папярэднік жыў тут у нас гадоў так 5000. Ну, а зараз, з Заходняй Еўропы, адбываецца нашэсце сігнальных ракаў[6]. Гэты рак яшчэ драбнейшы, чым наш. Вось часта пачуеш: “Ракі цяпер сталі драбнейшыя, не тое, што раней!” Не спяшайцеся рабіць высновы! А можа гэта ўжо зусім іншы від ракаў, які перакачаваў да нас з Еўропы. У нас на Беларусі – два віды ракаў: вузкапалы і шыракапалы. Калі ў адным возеры водзіцца два віды ракаў, то вузкапалы рак з цягам часу выцясняе шыракапалага рака, і шыракапалы рак знікае ў возеры. Застаецца ў возеры толькі вузкапалы. Сігнальны ж рак, як больш агрэсіўны – выцісне і вузкапалага і шыракапалага! І самае галоўнае, сігнальны рак – устойлівы да рачынай чумы і іншых інфекцыйных захворванняў. У яго каласальная жыццяздольнасць!

Шмат чаго цікавага цяпер адбываецца ў нас.

**У.С.:** Акрамя стварэння прыватнага музея, якія яшчэ захапленні ў доктара геаграфічных навук?

**Б.У.:** Захапляюся падводным паляваннем!

**У.С.:** А ці чулі Вы пра такога Аляксея Віктаравіча Протаса, начальніка Глыбоцкай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету? Не наязджаў на Вас за падводнае паляванне? Не штрафануў?

**Б.У.:** Ведаю такога… Возера Супонец адведзена для інтэнсіўнага рыбалоўства. Лаві хоць на 20 кручкоў! Але з гэтым падводным паляваннем у нас на Беларусі – адна марока. І на сайтах пішуць: “Хочаш добра папаляваць? Едзь у Польшчу, Літву, альбо Расію!”. У нас тут, як заўсёды, вельмі перагінаюць палку! Ацэньваючы шкоду ад браканьераў, ніхто ніколі, аднак, не задумаўся, не заняўся аналізам, статыстыкай… Ніякіх дадзеных няма, усё робіцца па прынцыпу: спадабалася, не спадабалася, а ў галаву можа прыйсці любая дурнота. А ў гэтым годзе зусім у некага дах знясло! У міністэрстве, дзе чалавек не павінен дапускаць ніякіх ляпсусаў, хтосьці заявіў: “Нельга ўвесну пад час нерасту заходзіць у ваду, бо нагамі можна паптаптаць ікру!” Трызненне! Дурасць! Такое трызненне не павінен дапускаць міністэрскі работнік! Вось менавіта такім чынам, як раз, адсеклі цэлы пласт турыстаў-байдарачнікаў, для якіх 1-га траўня – першы паход, адкрыццё сезона. А ім кажуць – забаронена плаваць на лодках!!! Дурасць несусветная! Нельга нанесці рыбе шкоду драўлянай лодкай, драўляным вяслом! Ніякай шкоды ікры!

Заканчэнне на стар. 11



**Барыс Паўлавіч Уласаў,** загадчык лабараторыі азёразнаўства геаграфічнага факульта БДУ, доктар геаграфічных навук, адзін з жыхароў хутара Скрабатуны (улетку), 13.08.2011 г. *Фота Ул. Скрабатуна.*



Баклан.



Баклан абедае.



Шчупак – на вячэру.



Скапа



■ Кліменцій Кожан,
*м. Германавічы.*

# Першы беларускі каляндар

**У 1910 годзе газета «Наша Ніва», што выходзіла ў Вільні, выдала «Першы беларускі каляндар». Ён даваў цікавыя звесткі па гісторыі, эканоміцы, літаратуры, культуры Беларусі. У раздзеле «Сельская гаспадарка» расказвалася аб значэнні торфу і яго ўжыванні, аб лубіну, штучным гною, аб тым, якую карысць прыносяць сеяныя травы, як вібіраць добрага каня ці карову. Змешчаны і іншыя карысныя для сялянаў матэрыялы.**

У календары надрукаваныя вершы і апавяданні вядомых беларускіх паэтаў і пісьменнікаў: «Песня званара» Янкі Купалы, «Нёман» Якуба Коласа, «Дождж, у полі холад» Максіма Багдановіча, «На ўсходзе сонца» Цішкі Гартнага, «Суд» Ядвігіна Ш. і іншыя.

Надрукаваны таксама артыкул, у якім гаворыцца аб нацыянальным адраджэнні беларускага народа.

У раздзеле «Беларуская бібліяграфія» змешчаныя цікавыя звесткі аб беларускіх кнігах XVI-XVIII стагоддзяў, складзеныя Рамуальдам Зямкевічам.

На старонках календара знаходзім дадзеныя аб насельніцтве гарадоў і мястэчак Беларусі. Самым вялікім горадам Беларусі тады лічылася Вільня – 160 000 жыхароў. Насельніцтва іншых вялікіх гарадоў Беларусі складалася ў той час: Віцебск – 66 000, Брэст – 46 000, Бабруйск – 35 000, Барысаў – 15 000, Ваўкавыск – 11 000, Гомель – 37 000, Гродна – 47 000, Мінск – 91 000, Магілёў – 43 000, Мазыр – 11 000, Орша – 13 000, Пінск – 28 000, Полацк – 21 000, Слонім – 16 000, Слуцк – 14 000, Шклоў – 11 000 жыхароў.

Многія павятовыя гарады былі тады зусім маленькімі: Гарадок – 5 000, Дзісна – 7 000, Докшыцы – 4 000, Дрыса – 4 000, Друя – 4 000, Лепель – 6 000, Сураж – 3 000, Сянно – 4 000 жыхароў.

У календары знаходзім таксама звесткі аб народнай асвеце ў Расіі і іншых краінах свету. У той час, калі ў ЗША расходы на асвету на 1 жыхара ў год склалі 4 руб. 86 кап., у Германіі – 3 руб. 43 кап., Швейцарыі – 2 руб. 43 кап., Англіі – 2 руб. 36 кап., Галандыі – 1 руб. 99 кап., Францыі – 1 руб. 66 кап., то ў Расіі ўсяго толькі 31 капейку. Адна **пачатковая школа** прыходзілася на 365 жыхароў у Нарвегіі, на 441 – у Швецыі, на 520 – у Італіі, на 706 – у Швейцарыі, на 924 – у Германіі, а ў Расіі – на 2 637 жыхароў. Адна **сярэдняя школа** прыходзілася ў Італіі на 21 620 жыхароў, на 35 566 – у Францыі, на 49 460 – у Германіі і на 103 638 – у Расіі.

Адна вышэйшая школа прыходзілася на 476 190 жыхароў у Італіі, на 601 813 – у Францыі, на 1 376 363 – у Германіі, а ў Расіі – на 10 615 005 жыхароў. Калі ў ЗША на 1 000 жыхароў прыходзілася 230 вучняў, Англіі – 176, Швецыі – 164, Швейцарыі – 163, Германіі – 158, Францыі – 144, то Расіі толькі 32 вучні.

Чытаючы гэтыя звесткі, бачым, якіх вялікіх поспехаў у навучанні падрастаючага пакалення дабілася Беларусь за 100 гадоў пасля выхаду першага беларускага календара.

Беларускі каляндар можна было купіць у беларускіх кнігарнях Вільні, Віцебска, Гродна, Гомеля, Магілёва, Мінска, Слоніма, Пецярбурга, Кіева, Варшавы, у крамах невялікіх гарадоў і мястэчак.

Цікава адзначыць, што вокладку Першага беларускага календара аформіў Язэп Драздовіч, які вучыўся тады ў Віленскай рысавальнай школе. На малюнку Язэпа Драздовіча мы бачым вёску над ракой. Селянін арэ поле. Сонца толькі ўзыходзіць з-за лесу. Гэта была першая друкаваная праца маладога мастака.

Беларускія календары, якія выходзілі да Кастрычніцкай рэвалюцыі і 20-30-ых гадах мінулага стагоддзя, неслі ў народныя масы рознабаковыя веды, таму карысталіся вялікім попытам сярод жыхароў нашых гарадоў і вёсак.

На жаль, у наш час цяжка набыць беларускія календары, асабліва ў сельскай мясцовасці, таму што яны выдаюцца мізэрнымі тыражамі.




VI год выданьня — Прыймаецца падпіска — год выданьня VI

НА 1911 ГОД

— НА ЕДЗІНУЮ БЕЛАРУСКУЮ ГАЗЭТУ —

„НАША НІВА"

Хто жадае лепшай долі беларускаму народу нехай выпісывае, чытае сам і шырыць між людзей, беларускую газэту.

**Каштуе з дастаўкай і перэсылкай:**

На ўвесь год толькі . . . . . . 2 руб. 50 кап.
На поўгода . . . . . . . . . . . 1 „ 25 „
На 3 месяцы . . . . . . . . . — „ 65 „

Хто вышле грошы адразу за ўвесь год, дастане у прыдатку Беларускі календар на 1911 год, а за прыплату 50 кап. „Гісторыю Беларусі" Власта.

**Выйшоў з друку і прадаецца**

БЕЛАРУСКІ КАЛЕНДАР

„Нашае Нівы" на 1911 год.

**Цэна 15 кап. с перэсылкай 20 кап.**

Хто выпісывае не шмат календароў, грошы найлепей пасылаць пачтовымі маркамі у закрытым лісьце.

■ Кс. Віктар Місевіч,
тэкст і фота.

# Батлейкі – старадаўняя хрысціянская традыцыя ў Беларусі

Пастаноўка Батлейкі – гэта старадаўняя хрысціянская традыцыя ў Беларусі. Многія з нас не ўяўляюць сабе сучаснага жыцця без інтэрнэту, тэлебачання ці кіно. Мы прывыклі да дасягненняў навукі і з прыемнасцю карыстаемся новымі тэхналогіямі. Аднак, часам варта звярнуць увагу на тое, як весяліліся і як святкавалі Божае Нараджэнне нашыя продкі. Цудоўны спосаб адпачнуць на Каляды – гэта паглядзець Батлейку.

Найбольш цікава, вядома, самым удзельнікам спектакля або бацькам, чые дзеці выступаюць у ролі маленькіх акцёраў. Але і мінаковы глядач не выйдзе з залы расчараваны.

У Мёрах дзеткі з парафіі паказалі гледачам сапраўдны тэатр. У мясцовым Доме Культуры яны распавялі гісторыю Нараджэння Божага Сына. Адметна тое, што сцэнарый быў напісаны ў Мёрах. Гэтаксама, як і прыгожыя касцюмы – таксама аўтарства мясцовай парафіянкі сп-ні Марыны Баговіч. Рэжысёр, якая паставіла з дзеткамі Батлейку – сп-ня Наталля Гаркоўская.





Дзейства адбывалася сярод розных раслін: кветак і грыбоў. Маленькія акторы добра ўвайшлі ў роль Ветрыка і прадстаўнікоў жывёльнага свету: Ваўка, Сабачкі і Авечкі. Якая Батлейка без чарцяня? І гэты герой прысутнічаў на сцэне, паказваючы ў смешнай форме свае адмоўныя якасці: то псуючы скрыпку Гноміку, то проста, падманваючы.

Дыялогі герояў былі багата аздоблены калядкамі, якія, дарэчы, выконваліся пад жывое музычнае суправаджэнне мёрскай моладзі. Усе гледачы захапіліся сольным выкананнем калядкі дзяўчынкай, якая выступала ў ролі Найсвяцейшай Марыі Панны.

Падчас спектакля з залы часта чуўся смех дзяцей і дарослых: так натуральна акторы на сцэне выконвалі свае ролі. Пасля заканчэння Батлейкі выступоўцы былі ўзнагароджаны шчодрымі апладысментамі. Пробашч парафіі кс. Кшыштаф Мянкіна пачаставаў усіх дзетак-актораў салодкімі падарункамі.





Энерганагляд інфармуе.

■ Ю.А. Рацьковіч,
*дзяржаўны інспектар па энергетычным наглядзе Глыбоцкага МРА ф-ла «Энерганагляд».*

# Шмат няшчасных выпадкаў пры эксплуатацыі воданагравальнага абсталявання

Па інфармацыі Савета Бяспекі Рэспублікі Беларусь, з прычыны парушэння патрабаванняў эксплуатацыі воданагравальнага абсталявання, у арганізацыях Рэспублікі Беларусь пачасціліся няшчасныя выпадкі пры яго эксплуатацыі, якія пацягнулі цяжкія наступствы. Так з 2004 года па цяперашні час у выніку выбухаў газавых балонаў, вадагрэйных катлоў і іншага воданагравальнага абсталявання пацярпела 27 чалавек, з іх 7 загінула.

Адным з апошніх няшчасных выпадкаў у выніку нездавальняльнай эксплуатацыі водападагравальніка, з'явіўся групавы няшчасны выпадак з начальнікам змены і аператарам ацяпляльна-вытворчай кацельні ААТ «Мастадрэў» канцэрна «Беллеспаперапрам» (г. Масты Гродзенскай вобласці), які адбыўся ў 2011 годзе.

**У мэтах недапушчэння няшчасных выпадкаў пры эксплуатацыі водападагравальнікаў неабходна выконваць наступныя патрабаванні пры іх эксплуатацыі:**

**1.** Падагравальная ўстаноўка павінна быць абсталявана аўтаматычным рэгулятарам тэмпературы, якія забяспечваюць тэмпературу вады ў адпаведнасці з зададзеным рэжымам. Рамонт аўтаматычных рэгулятараў і прылад дыстанцыйнага кіравання павінен праводзіцца падчас рамонту асноўнага абсталявання. **ЗАБАРАНЯЕЦЦА** эксплуатацыя падагравальнікаў (каларыфераў) з няспраўнымі сродкамі цеплавой аўтаматыкі.

**2.** Падагравальная ўстаноўка павінна быць абсталявана кантрольна-вымяральнай апаратурай паводле патрабаванняў правіл.

**3.** Падагравальнікі з няшчыльнымі трубкамі павінны неадкладна **АДКЛЮЧАЦЦА** ад цеплавой сеткі. Уключаюць іх пасля ліквідацыі дэфектаў і атрыманні дадатных вынікаў праверкі на шчыльнасць.

**4.** На кандэнсатаправодах ад падагравальнікаў за кандэнсатаадводчыкамі павінны быць усталяваныя кропкі адбору проб для кантролю за якасцю кандэнсату, а таксама прадугледжана адключэнне падагравальніка ад агульнай схемы збору кандэнсату і яго дрэнажу пры нездавальняльнай якасці кандэнсату.

**5.** Падагравальнікі пасля капітальнага і бягучага рамонту, а таксама перад пачаткам ацяпляльнага перыяду павінны падвяргацца гідраўлічнай апрасоўцы на трываласць і шчыльнасць ціскам 1,25 працоўнага, але не ніжэй 1МПа (10 кгс/кв.см). Вынікі праверак афармляюцца адпаведнымі актамі.

**6.** Рамонт падагравальнікаў і ўсіх дапаможных прылад павінен праводзіцца штогод у адпаведнасці з графікам, узгодненым з тэрмінамі рамонту цеплавога абсталявання і цеплаправодаў сістэмы цеплазабеспячэння.

**7.** Стан рэгулюючых і запорных прылад, якія выкарыстоўваюцца ў схемах цеплавой аўтаматыкі, павінен задавальняць тэхнічным патрабаванням па шчыльнасці, расходных характарыстыках.

**8.** У структурных падраздзяленнях арганізацый, якія здзяйсняюць нагляд і эксплуатацыю сродкаў кантрольна-вымяральных прыбораў і аўтаматыкі, павінны быць падрабязныя схемы расстаноўкі аўтаматычных рэгулятараў і прыбораў, мантажныя схемы з указаннем маркіроўкі, а таксама інструкцыі па эксплуатацыі і карты наладак рэгулятараў.

■ Яўген Самсонаў

# Чым адметны 2011 год і якія спадзяванні на 2012?

**З такім пытаннем мы звярнуліся да глыбачан і гасцей горада.**



**Госці з Пастаў, Сяргей і Вольга Івановы:** – 2011 год для нас прайшоў нармалёва. Спадзяемся, што паводле слоў Прэзідэнта, 2012 год будзе яшчэ лепшым!



**Лена Масальская:** – Чым можа быць адметны год маці, якая знаходзіца ў дэкрэтным адпачынку? Канешне, клопатам аб сваім дзіцяці. Спадзяюся, што 2012 год будзе лепшым, мы крышачку падрасцем, ды, магчыма, дзяржаве ўдасца ўтаймаваць эканамічны крызіс.



**Работнікі культуры Кірыл Гуськоў і Жанна Нарыцына:**

**К.Г.** – 2011 год пачаўся добра, але з-за наступстваў эканамічнага крызісу заканчваецца не так, як спадзявалася. Ёсць надзея на 2012 год, што ён у дабрабыце будзе больш стабільным.

**Ж.Н.** – Самым прадуктыўным у творчым прафесійным плане для мяне быў 2011 год. Грунтуючыся на дасягненнях 2011 і былых гадоў, спадзяюся, што і 2012 будзе для мяне такім жа плённым. Яшчэ ёсць надзея, што ўрэшце дабудуюць новы палац культуры і збудзецца мая запаветная мара – я атрымаю кватэру.



**Алёна Гапанёнак:** – Я, маці-адзіночка траіх дзяцей. 17 год адпрацавала выхавацельніцай у садзіку. Што і казаць, цяжкавата было, а тут яшчэ і крызіс. Але, дзякуючы шчасліваму выпадку і добраму чалавеку, я знайшла працу па душы, якая дае мне ўпэўненасць у будучыні. Спадзяюся, што 2012 год будзе для мяне, маіх калег па працы і ўсіх людзей лепшым.



**Вячаслаў Сабыніч:** – Наконт адзнакі і спадзяванняў устрымаюся, а пажаданне, калі ласка. Няхай усмешка Божай Маці, звернутая да неўмаляткі, хвалюе Вашы сэрцы. Няхай Усявышні даруе кожнаму сілу духа і пакор, ды дапаможа ўсім ацэньваць кожнае імгненне жыцця.



**Аляксей Протас:** – Кожны пражыты год, як і 2011-ы, адметны сваімі набыткамі, якія спрыяюць мэтанакіраванай дзейнасці і адкрываюць адпаведныя перспектывы ў будучыні. Таму мяркую, што і 2012-ы год у плане дабрабыту і стабільнасці прынясе свае дывідэнды. Галоўнае – не губляць упэўненасці ў сабе, а заўжды спадзявацца на лепшае.

■ Кс. Віктар Місевіч,
тэкст і фота.

# Дзякуйце Богу за тых, каго Ён абраў сабе на службу!

**Свята Божага Нараджэння заўсёды прыносіць радасць людзям. У Мёрах 25 снежня вернікі сабраліся ў касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны, каб падзякаваць Езусу не толькі за збаўленне, але і за новага дыякана Каталіцкага Касцёла і за сакрамэнт бежмавання.**

У гэты дзень у мёрскай парафіі студэнт Пінскай духоўнай семінарыі Антон Лагунёнак прыняў пасвячэнні дыяканату. Біскуп Уладзіслаў Блін, прамаўляючы да маладога чалавека і да ўсіх прысутных, сказаў: "Касцёлу вельмі не хапае добрых святароў! Маліцеся аб пакліканні! І дзякуйце Богу за тых, каго Ён абраў сабе на службу!"

Св. Імшу з біскупам канцэлебравалі святары Віцебскай дыяцэзіі, а таксама духоўны айцец Пінскай семінарыі а. Аркадзь Куляха OCD.





*Заканчэнне на стар.11*

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

2 – 8 студзеня 2012 г.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 2 студзеня




**06.00**, **07.05**, **07.35**, **08.10**, **08.35** Доброе утро, Беларусь!
**07.00**, **08.00** (с сурдопереводом), **09.00**, **12.00**, **15.00**, **19.00**, **23.10** Новости.
**07.30**, **08.30** Деловая жизнь.
**09.15** В центре внимания.
**09.55** «Уроки бизнеса».
**10.25** Комедия **"Джентльмены удачи"** (СССР).
**12.15** Романтическая комедия **"Поцелуй сквозь стену"** (Россия).
**13.50** Док.фильм «Невероятная правда о звездах».
**15.10**, **19.15** Новости региона.
**15.25** Культурные люди.
**15.55** К тёще на блины.
**16.25** Тэлефільм АТН «У госці да смалянчанкі» цыкла «Зямля беларуская».
**16.40** Специальный репортаж АТН «С любовью к Венеции».
**16.55** Мелодраматический сериал **"Широка река"** (Россия-Украина).
**17.50** Премьера. Детективная мелодрама **"Тонкая грань"** (Россия). 1-я серия.
**18.45**, **01.00** Зона Х.
**19.30** Арена.
**19.55** Премьера. Комедийный сериал **"Сваты-5"** (Украина).
**21.00** Панорама.
**21.40**, **01.10** День спорта.
**21.50** Командировка.
**22.05** Новогодняя неделя. Вечер с «Синей птицей».
**23.30** Мелодрама **"Спокойной ночи!"**




**06.00**, **09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10** **"Заколдованный мальчик"**. Мультфильм.
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** **"Эта веселая планета"**. Художественный фильм.
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** **"Принцесса на бобах"**.
**15.10** **"Обручальное кольцо"**. Многосерийный фильм.
**16.00** Наши новости (с субтитрами).
**16.10** Новости спорта.
**16.15** **"За двумя зайцами"**.
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** **"Счастливы вместе"**. Многосерийный фильм.
**18.55** «Пусть говорят»
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Егор Берoев в фильме **«История любви или новогодний розыгрыш»**.
**22.40** Ким Бейсингер в фильме **«Элвис покинул здание»**.
**00.15-00.45** Ночные новости.




**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Ешь и худей.
**09.30** Навіны надвор'я.
**10.00** Женсовет.
**10.35** Кинопробы.
**11.05** Школа ремонта.
**12.05** Семейная комедия **"Один дома-4"** (США).
**13.30** **"Маргоша"**
**15.15** **"Жаркий лед"**
**16.10** Внеклассный час.
**16.30** Нескучный глобус.
**16.55** **"Зайцев+1"**
**17.25** Женская лига.
**17.55** **"Жаркий лед"**
**18.55** «Смех с доставкой на дом».
**20.05** Футбол. Чемпионат Англии. Премьер-лига. Обзор тура.
**21.00** Калыханка.
**21.15** Телебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Белорусское времечко.
**22.30** **"Зайцев+1"**
**23.05** Женская лига.
**23.35** **"Маргоша"**




**06.00** «24 часа».
**06.10** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «Утро. Студия хорошего настроения».
**08.30** «Неделя»
**09.35** «Большой завтрак». Новогодний выпуск.
**10.10** «Зеленый огурец. Полезная передача».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Секретные территории».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** «Большой город».
**13.10** «Дальние родственники».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг»: «новички» против «бывалых».
**14.45** «Кино»: Мария Голубкина, Тьерри Монфрей и Дмитрий Орлов в фильме **"ФРАНЦУЗ "**. Россия, 2004 г.
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** **"Огонь любви"**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.30** «Кинопонедельник»: **«СКАЗ ПРО ФЕДОТА СТРЕЛЬЦА»**. Россия, 2001 г.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Тайны мира с Анной Чапман».
**23.55** «Новый год на СТВ». Лучшее.




**7:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**7:40** Зона «Свабоды»
**8:10** «Кніга рэкордаў Шуткі»
**9:30** Прэс-экспрэс
**9:45** **"Агнём і мячом»**: 2 серыя
**10:35** ПраСвет
**11:00** «Таямніцы Ватыкану» : 3 серыя
**11:30** Эксперт
**12:00** Зона «Свабоды»
**12:30** «Кніга рэкордаў Шуткі»
**13:50** МакраФон: Рамантычны канцэрт: ч. 2
**14:30** Прэс-экспрэс
**14:45** «Таямніцы Ватыкану» : 3 серыя
**14:10** ПраСвет
**14:35** Эксперт
**15:05** **"Агнём і мячом»**: 2 серыя
**17:00** **"Таямніца Сагалі»**: 11 серыя
**17:25** Зона «Свабоды»
**18:00** Аб'ектыў
**18:05** **"Агнём і мячом»**: 2 серыя
**18:55** «Зімнік у цэнтры Сусвету»
**19:30** Аб'ектыў
**19:40** Гарачы каментар
**19:50** Калыханка для самых маленькіх
**20:00** Еўропа сёння
**20:35** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Бывай, Ленін»
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Рэмарка
**21:50** Фільматэка майстроў: **"Каралева»**
**23:25** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма)
**23:35** Аб'ектыў
**0:00** Гарачы каментар

